№13 (13)

4 кастрычніка 1995 г.

Выдаецца
на беларускай і рускай мовах

Кошт у розніцу — 700 руб.



Газета сверстана
на компьютерах
"ЛИНТЕК"

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля

*Вы не паспелі падпісацца на "Народную волю"? У вас яшчэ ёсць шанц атрымліваць газету з 1 лістапада. Для гэтага трэба аформіць падпіску да 15 кастрычніка.*

*Наш індэкс 63222. Кошт падпіскі на месяц — 12 тысяч рублёў, на 2 месяцы — 24 тысячы.*

# Учора не адбылося пленарнае пасяджэнне Вярхоўнага Савета. Чаму?

**У тым, што праця г сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у аўторак будзе сарваны, можна было не сумнявацца. Такога ўціску дэпутаты не памятаюць за ўсе пяць гадоў. Многім з іх па некалькі разоў званілі з высокіх кабінетаў выканаўчай улады і па розных прычынах адгаворвалі ад удзелу ў рабоце сесіі. Шмат што сказаў і прэзідэнт рэспублікі А.Лукашэнка, які напярэдадні выступіў па тэлебачанні.**

**І вось 10 гадзін раніцы 3 кастрычніка. Папярэдні падлік паказаў, што да кворума крыху не хапае. Значыць, пленарнае пасяджэнне няма сэнсу адкрываць. Пачынаецца звычайная дыскусія. Вядома, афіцыйнае тэлебачанне яе не пакажа. Але карэспандэнт "Народнай волі" запісаў на магнітафонную стужку, і ў нас ёсць магчымасць даць фрагменты выступленняў спікера і некаторых дэпутатаў Вярхоўнага Савета.**

## У нас ёсць усе паўнамоцтвы для плённай працы

**Мечыслаў ГРЫБ,**
**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

...На пленарным пасяджэнні васемнаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання, якое адбылося 5—8 верасня 1995 года, было прынята адзінаццаць законаў Рэспублікі Беларусь. Усе яны, згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, былі накіраваны на подпіс прэзідэнту Рэспублікі Беларусь у адпаведныя тэрміны. 21 верасня ў 18 гадзін па паведамленню начальніка дзяржаўна-прававога ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Марыскіна тры законы Рэспублікі Беларусь, а менавіта: "Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь", "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў і дэпутатаў Рэспублікі Беларусь", "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" прэзідэнтам не былі падпісаны і не вернуты ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у 10-дзённы тэрмін.

22 верасня супрацоўнікамі Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь былі складзены акты аб тым, што на падставе пункта 20 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь законы лічацца падпісанымі. У гэты ж дзень яны былі накіраваны для апублікавання ў рэдакцыі "Народнай газеты" і газеты "Звязда". Два законы: "Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь" і "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў, дэпутатаў Рэспублікі Беларусь" былі апублікаваны спачатку 26 верасня "Народнай газетай", потым, 27 верасня, газетай "Звязда". Закон "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" не апублікаваны ў газетах і да сённяшняга дня. Але ўсе вышэйназваныя законы апублікаваны ў нумары 29 "Ведамасцей Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" і ўступаюць у дзеянне ў адпаведнасці з іх зместам.

27 верасня прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у Вярхоўны Савет былі вернуты непадпісаныя ўсе адзінаццаць законаў, прынятыя васемнаццатай сесіяй Вярхоўнага Савета.

У сувязі з тым, што законы не былі падпісаны і не вернуты ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у 10-дзённы тэрмін на падставе пункта 20 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, артыкула 51 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь" і артыкула 19 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь", законы лічацца падпісанымі.

На падставе вышэйсказанага супрацоўнікамі Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь таксама былі складзены акты і астатнія восем законаў 28 верасня былі накіраваны ў рэдакцыі "Народнай газеты", газеты "Звязда" і "Ведамасцей Вярхоўнага Савета" для апублікавання.

Прэзідэнт, калі вярнуў нашы законы, зрабіў такую паперу: "Вяртаю прынятыя Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь наступныя законы Рэспублікі Беларусь..." І далей ідзе іх пералік, я іх чытаць не буду, таму што я толькі аб гэтым казаў, але зачытаю апошняе. "Адначасова адзначаю, што існуе пытанне аб правамоцнасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання прымаць заканадаўчыя акты". Існуе пытанне, зразумела, у прэзідэнта, для мяне і для вас усіх гэта не навіна, таму што прэзідэнт аб гэтым заяўляе адкрыта, дзе ён выступае. Аб гэтым таксама было заяўлена ім і ўчора. Але я мяркую, што пытанне пытаннем, але ж трэба ўсё вырашаць заканадаўчым шляхам. Ёсць пытанне — звярніцеся, калі ласка, у Канстытуцыйны суд. Няхай ён пацвердзіць, што гэта так, і ніхто не будзе нікому тлумачыць тое ці іншае і ўсім будзе зразумела, як і што на самай справе.

Я ўчора зрабіў даручэнне нашаму юрыдычнаму кіраўніцтву, і яны мне зрабілі даведку, якую я хачу вам зачытаць.

"Даведка па пытанню аб правамоцнасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання.

Згодна з артыкулам 91 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета захоўваюцца да адкрыцця першага пасяджэння Вярхоўнага Савета новага склікання. Артыкулам 7 Закона "Аб парадку ўступлення ў сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь" таксама прадугледжана, што дэпутаты Вярхоўнага Савета дванаццатага склікання захоўваюць свае паўнамоцтвы да адкрыцця першага пасяджэння Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання.

У адпаведнасці з часткай другой артыкула 7 Закона "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь" Вярхоўны Савет лічыцца правамоцным пры выбранні не менш як дзвюх трацей ад агульнай колькасці дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Вярхоўны Савет дванаццатага склікання выбіраўся па Канстытуцыі 1978 года, якая прадугледжвала, што ён складаецца з 360 дэпутатаў. На цяперашні час захавалі свае паўнамоцтвы 296 дэпутатаў, што складае больш за дзве трэці ад іх агульнай колькасці. 2/3 складае 240 дэпутатаў, вы гэта добра ведаеце. Такім чынам, Вярхоўны Савет дванаццатага склікання захоўвае свае паўнамоцтвы і мае права ажыццяўляць усе функцыі заканадаўчага органа. У адпаведнасці з артыкулам 10 Часовага рэгламенту Вярхоўнага Савета сесія Вярхоўнага Савета правамоцная, калі на ёй прысутнічае не менш 2/3 дэпутатаў, выбраных на момант правядзення сесіі. Дэпутаты, паўнамоцтвы якіх датэрмінова спынены, павінны разглядацца як невыбраныя і не могуць улічвацца пры вызначэнні кворуму для правядзення сесіі.

Акрамя таго, паважаныя дэпутаты, як таксама вам вядома, я рабіў запыт у Канстытуцыйны суд аб легітымнасці нашага Вярхоўнага Савета. Канстытуцыйны суд маю прапанову адказаўся прыняць да разгляду на той падставе, што ў яго няма ніякіх доказаў, ніякіх заканадаўчых актаў ці распараджэнняў лічыць гэты Вярхоўны Савет неправамоцным. Я гэта зразумеў так, што ён пацвердзіў нашу легітымнасць. Іншага разумення я, напрыклад, не знаходжу, але ж некаторыя журналісты гэта разумелі па-свойму. Няхай разумее кожны так, як ён хоча.

Па-другое. Вы ведаеце, што зараз прыкладна сем прапаноў Старшыні Вярхоўнага Савета знаходзяцца ў Канстытуцыйным судзе на тое, што шэраг указаў прэзідэнта з'яўляюцца неканстытуцыйнымі, што яны супярэчаць Канстытуцыі і заканадаўству. Усе гэтыя мае прапановы Канстытуцыйным судом прыняты да разгляду, а гэта, на мой погляд, калі лагічна разважаць, таксама падцвярджае тое, што Канстытуцыйны суд прымае гэта да разгляду, таму што ён лічыць, што мы легітымны, мы законны...

## Бюджэт – справа сур'ёзная, і Вярхоўны Савет павінен абавязкова заслухаць гэтае пытанне

**Пётр САДОЎСКІ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

... Я думаю, што наша выканаўчая ўлада канчаткова яшчэ страціла розум і ўсё ж такі яна дасць нам паслухаць сітуацыю пра бюджэт. Але мы павінны на гэты раз слухаць бюджэт не проста так. Мы павінны падрыхтавацца яго слухаць. Як я разумею гэта? Мы павінны зараз праз Кантрольную палату апаратыўна атрымаць даныя пра бюджэт, пра гаспадарчую дзейнасць Упраўлення справамі, пра тыя грошы, якія не паступаюць у бюджэт, а зарабляюцца недзе, так сказаць, прэзідэнцкай камандай, і невядома, куды яны ідуць. Мы павінны атрымаць дакладныя даныя, з чаго складаюцца бюджэт і прэзідэнцкі фонд, і фінансаванне сілавых структур, і продаж зброі, і гаспадарчая дзейнасць і гэтак далей.

Вы, відаць, чыталі інтэрв'ю прэзідэнта "Известиям", якое было змешчана з месяц, а можа, паўтара таму, дзе прэзідэнт сказаў, што ён асобы прэзідэнт, да яго трэба падыходзіць з асобымі меркамі і для яго ўсё роўна, дзе грошы: ці ва ўпраўленні справамі, ці ў бюджэце. Гэта, ведаеце, вельмі такая, я б сказаў, смелая заяўка кіраўніка выканаўчай улады, якая павінна выконваць законы, закон аб бюджэце... На тое яна і выканаўчая ўлада. Таму трэба ў камісіях атрымаць гэтыя матэрыялы калі не сёння, дык заўтра, калі не заўтра, дык паслязаўтра і чакаць, працуючы ў камісіях, а бюджэт вывучыць не так проста. І калі мы падрыхтуемся і нам дадуць матэрыялы, то праз дзень-два сабрацца і тут гэта заслухаць...

## Сломать ситуацию – удел смелых и мужественных

**Владимир САПРОНОВ,**
**член Президиума Верховного Совета Республики**

...Я не против того, что предложил Станислав Станиславович, чтобы сейчас собрать сход, сделать обращение к депутатам. Но я думаю, что это обращение ничего, абсолютно ничего не даст. Потому что каждый из нас по-разному оценивает ситуацию. Есть просто откровенно боязнь людей за свое будущее, за будущее своей семьи. И от этого нам никуда не уйти. До тех пор, пока те, кто не боится, пока те, кто имеет мужество приезжать и работать, не сломают ситуацию и люди на местах не почувствуют, что она ломается, сюда депутаты не приедут.

У меня, допустим, большой вопрос заключен в том, что если бы мы даже и собрались и начали рассматривать законопроекты, начали принимать их, я абсолютно убежден, что ни один из них не был бы подписан президентом. И мы своей работой практически ставим в крайне сложное положение все институты государственной власти. Что сегодня делать? Что выполнять? Закон действует или не действует? Президент говорит, что они не действуют, и все боятся "президентской машины". Верховный Совет говорит, что они действуют. Поэтому выход, на мой взгляд, заключен в другом. Мечеслав Иванович, скажите, пожалуйста, вот вчера президент получил двухчасовой эфир. Вы можете получить хотя бы часовой эфир на государственном телевидении?

***Старшыня:** Пакуль не ведаю, але думаю, што не.*

## Каб ведаць пра становішча з нацыянальнай валютай, на трыбуну павінен падняцца Багданкевіч

**Сяргей НАВУМЧЫК,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

...Я, як і вы, знаходжуся пад уздзеяннем учарашняга тэлевыступлення прэзідэнта. Я ўпершыню даведаўся, што, аказваецца, не толькі Кабінет Міністраў, але і Вышэйшы Суд, і Канстытуцыйны суд падсправаздачны прэзідэнту. Але пачакаем, што скажа сам Канстытуцыйны суд па ўказах пра бюджэт і пра іншае...

Правільна тут казаў паважаны дэпутат Садоўскі, што да разгляду бюджэту трэба падрыхтавацца. Я думаю, што не лішнім было б паслухаць інфармацыю прафесара Багданкевіча, былога старшыню Нацыянальнага банка, тым больш што па Канстытуцыі Багданкевіча ад гэтай пасады ніхто не вызваляў. Яго павінен вызваляць ад пасады Вярхоўны Савет. І я быў бы зацікаўлены як дэпутат паслухаць яго справаздачу. І варта было б прапанаваць Станіславу Антонавічу Багданкевічу выступіць, тым больш што чалавек ён паважаны, паважаны спецыяліст. Я хацеў бы паслухаць такога спецыяліста пра становішча з нацыянальнай валютай у нас, на Беларусі, у тым ліку пра выкананне бюджэту і пра дэвальвацыю і гэтак далей.

**Пасля гэтага М.Грыб сказаў:**

*— Заява Станіслава Антонавіча Багданкевіча, з якой ён звярнуўся аб сваім звальненні, ёсць. І ён выказаў жаданне прыйсці і адказаць на пытанні дэпутатаў. Але ж гэта пытанне мы можам вырашаць на пленарным пасяджэнні. Гэта не забараняецца паслухаць і на Кансультацыйным савеце, але ж там мы ніякіх рашэнняў прымаць не можам. А рашэнне аб звальненні і гэтак далей мы павінны прымаць толькі на пленарным пасяджэнні. Ну, як мы сёння вырашым, так і будзем дзейнічаць.*

## Не трэба прымаць зварот да таго, хто не хоча слухаць. Трэба працаваць рэальна

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

...Сітуацыя зразумелая. Не проста так людзі сюды прыехалі. Вось адны захацелі — прыехалі, другія не прыехалі. Адбываўся націск на дэпутатаў з выкручваннем рук, з проста хамскімі выступленнямі на тэлебачанні, са знявагай дэпутатаў, знявагай цэлых структур, з пагрозай, што "папробуйце прыедзьце", з пасыланнем камісій і гэтак далей. Парушалася заканадаўства, парушалася мараль! І таму абсалютна правільна прапанова і спадара Смоляра, і Старшыні Вярхоўнага Савета: зараз рыхтаваць пытанне аб бюджэце і адначасна разбірацца з гэтымі парушэннямі, якія былі і ў адміністрацыйным плане, і ў плане заканадаўчым. І, я думаю, не трэба ісці па шляху мітынгавання, прымаць яшчэ чарговую пустую паперу, зварот да таго, хто не хоча слухаць — гэта бескарысна. Я лічу, што трэба працаваць рэальна. Тыя людзі, якія прыехалі, значыць, яны ўжо зрабілі выбар. І сапраўды разумеюць, што краіна ў небяспецы. Гэта беспрэдзел, калі захоплены дзяржаўны бюджэт і ён выкарыстоўваецца кучкай людзей так, як яны захочуць. Калі на ахову здароўя — 29%, а на адміністрацыю прэзідэнта... Колькі было зрасходавана? Калі не кантралюецца нічога, калі сапраўды, куды дзеліся тыя грошы, якія былі адпушчаны на Чарнобыль? Дзе яны? Дзе яны дзеліся? Гэта разбой! Гэта крымінальшчына! І тут прапануецца зрабіць, так сказаць, заяву і разысціся. Не, я прапаную ўсё-такі рэальна працаваць на заканадаўчай аснове, расследаваць гэтыя пытанні, перамагчы гэты страх. Няма чаго баяцца! Каго вы баіцеся? Каго, вы падумайце! Я не бачу... Гэта ўсё парушэнне закона ад пачатку да канца. Учора дзве гадзіны з лішнім уся нацыя вымушана была слухаць хамскае выступленне. Зняважаны былі ўсе, падазраваліся ўсе — гэта праця г "халоднай вайны", гэта ўвогуле нейкая, з пункту гледжання, з'ява ненармальнай псіхалогіі. І мы зараз пачынаем гаварыць аб тым, каб зрабіць нейкую чарговую заяву? Не, я усё ж такі прапаную рэальна працаваць. У нас ёсць і заканадаўчыя правы і ў нас ёсць магчымасць...

## Трэба даць належную ацэнку заклікам, якія дэстабілізуюць сітуацыю

**Алег ТРУСАЎ, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

...Я таксама падтрымліваю прапанову дэпутата Навумчыка, каб, можа, заўтра сабрацца разам для правядзення слуханняў па бюджэту і па сітуацыі ў Нацыянальным банку. Я думаю, што Багданкевіч — чалавек законапаслухмяны і ў адрозненне ад міністра фінансаў на гэта слуханне прыйдзе.

Адначасова я прапаную дастаць стэнаграму ўчарашняга выступлення прэзідэнта і раздаць дэпутатам для азнаямлення, таму што не ўсе змаглі ўважліва запомніць усе тыя выказванні, якія ён учора дапусціў. Але ўчора прэзідэнт звярнуўся да дэпутатаў не хадзіць на сесію. Прытым ён некалькі разоў гэта паўтараў. У сувязі з гэтым у мяне ўзнікае пытанне да вас і, канешне, да Канстытуцыйнага суда: у якой краіне мы маглі бачыць такога прэзідэнта, які заклікае парламентарыяў, каб не хадзілі на сесію і не працавалі. Мне здаецца, што на гэтых слуханнях і на прэзідыумах Вярхоўнага Савета трэба даць належную ацэнку гэтым заклікам, якія дэстабілізуюць сітуацыю ў нашай дзяржаве.

## Рэспубліка ў небяспецы, і пра гэта павінен задумацца кожны дэпутат

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

...Мне здаецца, што хопіць нам крывадушнічаць і гуляць у жмуркі. Мы нелегітымныя не таму, што гэта прадугледжана ў Канстытуцыі альбо ў законах, а таму, што не можам сабрацца на сесію. Кворум не збіраецца, значыцца, Вярхоўны Савет не існуе. Што гаварыць аб тым, каб нас прымалі ў Савет Еўропы, ездзіць у Страсбург, збіраць прэзідыумы і ўсё такое... Трэба было працаваць і даць ацэнку: можам мы сабраць сесію ці не? Калі не можам, дык не трэба тут пецы на ладан. Гэта ж проста глупства! Што мы для смеху збяром камісіі і будзем гаварыць: як дрэнна выконваецца бюджэт! Не існуе галіны ўлады! Не існуе галіны заканадаўчай улады! Не існуе прадстаўнічай улады ў рэспубліцы, якая здольна кантраляваць распаясаўшуюся да ўседазволу выканаўчую ўладу. Вось якое становішча ў нас у Беларусі!

...Трэба звярнуцца да астатніх дэпутатаў, запрасіць іх на сесію, сказаць, што рэспубліка ў небяспецы, што мы ў цясніну падаем. Паглядзіце, што робіцца — спад усіх эканамічных паказчыкаў, уседазвол, вас трасуць на мытні. Ну, дзе ж вы такое бачылі?!

...Паглядзіце, пра што гаворыць наш прэзідэнт! Я не магу гэта слухаць па тэлебачанні... Спачатку пенсіі адбіраюцца, цяпер пенсіі дадуцца. Пасля аднаго — другое. Мітусня, мітусня! А мы, прадстаўнічая ўлада, хто павінен абараніць народ ад гэтага ўседазволу, мы сядзім зараз і яшчэ будзем гімн спяваць тут перад пачаткам сесіі нашай альбо віншаваць з днём нараджэння. Ды смеху гэта варта! І будуць смяяцца ўсе газеты заўтра. Я лічу толькі так: стварыць камісію схода, зрабіць зварот і пасля гэтага збярэцца паслязаўтра сесія. Збярэцца — будзе працягвацца, не збярэцца — усё...

## Все, что необходимо было отдать людям, в бюджете было учтено. Но вот вопрос — куда поделись деньги?

**Иван СМОЛЯР, депутат Верховного Совета Республики Беларусь**

...Я хотел бы все-таки обратиться к выступлению Геннадия Дмитриевича Карпенко. Возможно, мое выступление многие поймут, что я не хотел доложить о законе о радиационной безопасности и ядерной энергии. Я готов, и с удовольствием эту работу проделаю на сессии, потому что уже министр энергетики Герасимов пытается строить подземную атомную станцию в Барановичах по просьбе руководства района. *(Шум в зале.)*

Почему я поддерживаю депутата Карпенко? Когда мы с вами утверждали бюджет, мы обсчитали все затраты. И все то, что необходимо отдать по чернобыльскому закону, оно было учтено... Все эти деньги были в бюджете заложены. Почему сегодня лишили льгот детей в зоне 1,5? Я имею в виду бесплатное лекарство, проезд. Ведь эти деньги в бюджете были. Спрашивается, а куда деньги подевались?..

Я скажу, сталкиваете вы одного с другим. Политика "разделяй и властвуй" она же в истории прошла, и всякому понятно. Мне только непонятно одно: если мы эту пенсию подтвердили в законе и в бюджете, почему на эту пенсию не хватило денег? Поэтому очень правильное предложение: если мы начнем сессию и начнем заниматься другими вопросами, то мы, я скажу, сделаем ошибку, потому что сегодня к нам идет масса заявлений, обращений письменных, устных, телефонных. Почему мы лишили таких-то льгот и компенсаций этих чернобыльцев. Приходится объяснять, что Верховный Совет никакого отношения к этому не имеет, что это сделано административной исполнительной властью и мы никаких законодательных решений не принимали...

* * *

**Менш як гадзіну працягвалася дыскусія. Было прынята такое рашэнне: пакуль дэпутаты папрацуюць у камісіях, а калі заўтра будзе кворум, сесія працягне работу. Што прынясе сённяшні дзень? Ён, думаецца, дасць адказ на пытанне, якое хвалюе кожнага, — ёсць у нас дэмакратыя ці няма?**

## Втемную играть, думаю, уже нет необходимости

**Геннадий КАРПЕНКО,**
**депутат Верховного Совета Республики Беларусь**

...Уважаемые депутаты! Уважаемый Мечеслав Иванович! ...Мы договорились, и были такие договоренности лично с премьером и с министром финансов о том, что продолжение сессии мы начнем с рассмотрения бюджета, рассмотрения программы. Более того, и бюджет, и программа должны были быть представлены в комиссии для детальной проработки. Однако ни один, ни второй документ в комиссию не поступил. Основные вопросы сессии, которые мы должны были именно сейчас и рассматривать, практически не подготовлены и не представлены в Верховный Совет. Более того, вчера уважаемый Александр Григорьевич, выступая по телевидению, заявил о том, что он делал все изменения в бюджете потому, что все депутаты находились в отпусках, в Крыму, валялись-грелись или еще что-то делали. Мы вот сидим уже, не греемся, не валяемся, но, пожалуйста, давайте мы будем последовательны и действовать в соответствии с тем решением, которое мы принимали на сессии Верховного Совета. Я считаю, что нет необходимости и просто нет возможности проводить сессию Верховного Совета до тех пор, пока правительство, Кабинет Министров, президент не представят в парламент изменения в бюджете и программу выхода из экономического кризиса. Она, эта программа, нигде не рассматривается, прошлое давно закончилось с треском и провалом, однако, я еще раз говорю, как ни странно, и уже не только для депутатов, а для всего населения, что эти документы не выносятся на народный суд. В конце концов я как гражданин хочу знать, что будет дальше со мной, что будет дальше с моей семьей, как будет изменяться жизнь нашей республики. Втемную играть, думаю, уже нет необходимости...

**М.Грыб адразу ж адказаў Г.Карпенку:**

*— Каб не зацягваць гэтае пытанне, я зраблю вам адказ. Так, сесія вырашыла гэтае пытанне і зрабіла адпаведнае даручэнне. У сувязі з гэтым даручэннем я зрабіў запыт да старшыні Кабінета Міністраў Міхаіла Мікалаевіча Чыгіра і да міністра фінансаў Паўла Уладзіміравіча Дзіка. Яны мне адказалі, што яны падрыхтаваны па гэтых пытаннях, яны іх распрацавалі і накіравалі на зацвярджэнне прэзідэнту. Пасля гэтага я зрабіў запыт да прэзідэнта, каб ён дазволіў гэтым асобам прыйсці на сесію і зрабіць адпаведныя справаздачы. Аднак адказу на свае запыты я не атрымаў.*

**Из первых уст**

## 100-процентной оплаты коммунальных услуг пока не будет

**Кабинет Министров не намерен вводить в течение нынешнего отопительного сезона 100-процентную оплату населением коммунальных услуг.**

Об этом заявил на встрече с представителями республиканского Клуба директоров премьер-министр Михаил Чигирь. В то же время правительство, по его словам, рассчитывает, что 60 процентов затрат будут возмещаться самими потребителями. Это не те 10 процентов, которые были установлены в прошлом году. За счет этого должно улучшиться состояние расчетов по коммунальным платежам, считает премьер.

**Лариса ЛАЗАРЬ,**
**Белинформ.**

